Opłata pocztowa uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грош.

# НАРОДНАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

**Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:** Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл.50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

**Цана абвестак:** перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту.

№. 15 Вільня, Серада, 8-га верасьня 1926 г. Год I.

## Ня ўгода, а змаганьне.

Ад 1922 году—пасьля выбараў у Сойм і Сэнат, у якіх перамога ў Заходняй Беларусі дасталася беларусам,—мы ўвайшлі на шлях так-званае **парляманцкае барацьбы**—барацьбы бяскроўнае, якую вядзе арганізаваная маса ў штодзенным жыцьці—на груньце ўсякага роду самаўрадаў, у соймах, у-ва ўсякіх грамадзкіх установах — палітычных, культурных і эканамічных.

Наша барацьба пад Польшчай мае **ня выключна нацыянальны** характар, але разам і **сацыяльны**: змагаючыся за нашу нацыянальнасьць, за права на будаваньне сваей культуры, за мову і школу, мы прымушаны ня менш, а мо і больш энэргічна, бароцца і за сваё сацыяльнае вызваленьне, бо народ наш—гэта бадай выключна **карод працоўны, сяляне і работнікі**. І гэта—з увагі на непадзельнае панаваньне ў Польшчы буржуазных клясаў—вельмі завастрае і нашае нацыянальнае змаганьне, робячы зусім немагчымай палітыку нейкіх **кампрамісаў**.

Народ наш разумее гэта і з агідай адвараечаецца ад усіх відаў згодніцкае палітыкі, ды пагардай кляйміць тых, хто йдзе на так званую ўгоду з „панамі палажэньня“. Дый ніякае ўгоды тут наагул **быць ня можа**: гэта пацьвярджае і той агульна ведамы факт, што ўсе ўгадоўцы, пачынаючы ад Аляксюка і канчаючы Павлюкевічам, ніколі не дабіваліся ніякіх уступак ад улады для беларускага народу, а толькі набівалі свой кішэнь падачкамі...

Ды не адна тэорыя, а і практыка нашае барацьбы паказуе, што лінія, па якой ідуць беларускія радыкалы, — лінія **самае рашучае апазіцыі і змаганьня** з сучаснымі валадарамі Польшчы за нашы правы і волю—зусім правільная. Вось жменя фактаў.

Ад мамэнту ўваходу нашых прадстаўнікоў у Сойм мы распачалі, паміж іншым, **барацьбу за родную школу**. Урадавая палітыка імкнулася да поўнага зьніштажэньня беларускае школы і дапяла гэтага ў адносінах да нашых пачатковых школ, якія аказаліся зусім зьліквідаванымі ўладай. І вось—ў выніку рашучага становішча, якое занялі нашы паслы, урад **мусіў прызнаць афіцыяльна нашае права на беларускую школу**— тую самую, якую быў зьнішчыў. Ня гледзячы на ўсю няґоднасьць „языковых“ законаў з 31 ліпня 1923 году, гэтыя законы былі іменна публічным-прызнаньнем гэнага нашага патаптанага і непрызнаванага датуль права.

Ня менш рашуча пачалі мы змагацца з **польскім асадніцтвам** на нашай зямлі. Праўда, дагэтуль асадніцтва не зьліквідавана, і ўрад далей сыпле народныя грошы бяз ліку гэным сваім гадунцам, якіх насадзіў у Заходняй Беларусі з чыста палітычнай мэтай. Але трэба рашуча адзначыць, што размах „асаджываньня“ нам новых „нашэльнікаў польскае культуры“ ў пастаці асаднікаў—значна **зьменшыўся**, а мо' і будзе прымушаны спыніцца.

Урэшце, побач з вышэйсказаным, беларуская апазіцыя ў польскім Сойме павяла таксама рашучую **барацьбу з адміністрацыйным тэрорам**, які асабліва быў расцьвіў акурат пасьля выбараў, ашукаўшых спадзяваньні ўраду на „бязьдзейнасьць“ і „несьвядомасьць“ беларускіх масаў. Мы ня йшлі нікога ні аб чым прасіць—ня йшлі прасіць „пардону“ ад нашых „валадароў“, але выступалі з вострымі пратэстамі проці ўсялякіх гвалтаў і зьдзекаў, клічучы адначасна народ свой не да пакоры, а да змаганьня. І вось (—гэта ведае кожны беларускі селянін і работнік па сабе!) за апошні год,—год росту арганізованых народных сілаў, — лічба выпадкаў катаваньня арыштаваных беларускіх сялян і работнікаў значна **зьменшылася**. Старая форма барацьбы „паноў палажэньня“ з усімі праявамі народнае сьвядомасьці і актыўнасьці палічнае ўступаць мейсца новым формам, сярод якіх заслугуе на ўвагу тварэньне нібыта беларускіх экспозытураў дэфэнзывы кшталтам павлюкевічаўскае „Рады“, павялічэньне лічбы „тайнікоў“ і іншых агентаў палітычнае паліцыі, урэшце — ўзмацаваньне дзеяльнасьці сацыял-дэфэнзыўных арганізацыяў на тэрыторыі Заходняе Беларусі.

Ці-ж з гэтага ня ясна, што лінія, па якой пайшло нашае палітычнае змаганьне, была зусім правільная Ці-ж ня ясна, што толькі затым даюць нам цяпер дазвол на адчыняньне прыватных народных школаў, ды робяць розныя ўступкі беларускім гімназіям, што мы **не пакарыліся** ранейшым дамаганьням улады, неабапертым навет на польскіх законах, што пачалі ладзіць свае народныя школы самастугам і без дазволу, рызыкуючы артыштамі вучыцялёў, што адмаўляліся выпаўняць незаконныя цыкурляры эндэцкага міністра Грабскага, хоць за гэта пагражалі нам зачыненьнем гімназіяў і г. д.?!

Мы лічым сваім абавязкам зьвярнуць на ўсё гэта агульную ўвагу ў гэты мамэнт затым, што ўрад „маральнае санацыі“, які дагэтуль ні ў чым ня выявіў сваей волі пайсьці насустрэчу справядлівым дамаганьням беларускіх працоўных масаў, салодкімі славамі стараецца ўсыпіць нашу энэргію і спыніць разгон змаганьня. Але мы не дамо сябе абаламуціць! Беларускія масы ўжо гэтак вырасьлі і нацыянальна і сацыяльна, гэтак загартаваліся ў вастрогах і катоўнях, што бяз страху арганізуюць свае сілы дзеля далейшага змаганьня, справядліва веручы, што пакладзеныя ахвяры не прапалі дарма, што нас **ждже перамога!**

## Выступленьні за амністыю у Наваградку.

У Наваградку 18 жніўня адбыўся мітынг за звальненьне палітычных вязьняў. Народу сабралося больш за дзьве тысячы. У 12 гадзін паказаліся два чырвоныя сьцягі—камуністычнай партыі і камсамолу. На мітынгу выступалі прамоўцы з гарачымі прамовамі, дамагаючыся звальненьня ўсіх палітычных вязьняў. Пасьля мітынгу сабраўшыяся сяляне і рабочыя зрабілі дэманстрацыю на вуліцах.

У першы мамэнт паліцыя і буржуазія думала, што ўжо рэвалюцыя! Дык крамы зачыняліся, 4 паліцыянты і афіцэр пахаваліся ад таўпы ў адну з крамаў. Паліцыя была ў страху, — ня ведама, што рабіць, а дэманстранты йшлі, высока падняўшы чырвоныя сьцягі і пяючы інтэрнацыянал.—Да дэманстрантаў выйшаў начальнік паліцыі і спытаўся, чаго яны хочуць. „Звальненьня палітычных вязьняў“—быў адказ і дэманстранты пайшлі далей.

На дэманстрантаў напалі фашысты і хацелі адабраць сьцягі, але тыя не даліся, дый пабілі напастнікаў.—У канцы трэйцяй вуліцы паліцыя загарадзіла вуліцу і ня пусьціла дэманстрантаў; тады дэманстранты разыйшліся. Толькі ў тры гадзіны, калі паліцыя пераканалася, што „рэвалюцыі няма“,—былі арыштаваны 25 асоб.

Адначасна з мітынгам у другім канцы гораду вялі на суд 16 палітычных вязьняў; вязьні, ведаючы, што адбываецца мітынг, пачалі пяяць інтэрнацыянал;—сабралося каля іх да 300 чалавек работнікаў. Тады вязьні зрабілі мітынг, выступіўшы з гарачымі прамовамі. Паліцыя ня ведала, што рабіць, і толькі прыйшоўшы ў сябе вязьняў адвяла ў турму.

**Хведар Бясхатні.**

## У Польшчы.

### Скліканьне Сойму.

На 16 верасьня мае быць скліканы Сойм. 8 верасьня будзе апублікавана праграма яго працы.

### Паліцыя ў кватэры пасла Баліна

Нячуваны гвалт зроблены над нятыкальнасьцю пасольскай кватэры дэпутата Баліна ў Варшаве. 2 верасьня паліцыя зрабіла вобыск у яго кватэры. Падставай дзеля гвалту зьявіўся данос, быццам у кватэры месьціцца Камітэт помачы палітычным вязьням. Арыштаваны (дзе ?!) 10 асоб. Так пішуць варшаўскія газэты. Ня ведалі мы, што памагаць палітычным вязьням—„праступна“. Відаць, справа ідзе аб прапагандзе амністыі.

Але-ж вось пан Обст з „Дзен. Віл.“ дык даведаўся больш таго, што ведаюць у Варшаве. — Ён ведае, што ў Баліна знойдзена... — „камуністычная друкарня з масай гатовых нелегальных друкаў“!..

### „Мілітарызацыя паліцыі“...

Добры прыклад, як заўсёды, дае Варшава рэшце Польшчы, асабліва—нашым многапакутным „Крэсам“. На варшаўскіх мурох расклеены „обязательныя постановленія“ варшаўскага „генарал-губернатара“, дазваляючыя паліцыі — „шырэй ды свабадней карыстацца агнястрэльным аружжам“... Паліцыянт мае цяпер права застрэліць чалавека ня толькі ў выпадку збройнага на яго нападу, баронючы сваё жыцьцё, але і тады, калі хтосьці навет—„падымае на яго руку з камянем ці кіём“... Неўзабаве гэтыя варшаўскія паперкі будуць пэўне пераклеены па ўсей Польшчы...

### Адстаўка міністра асьветы.

Не пасьпеў яшчэ зьесьці першую месячную пэнсію новы міністар асьветы, вышуканы Пілсудскім, як ужо выявілася... яго поўная няздольнасьць! Дык пачалі шукаць новага. З прафэсароў вышэйшай школы ўжо зьехалі на „прафэсароў“ сярэдняй: новым міністрам мае быць нейкі нікому няведамы вучыцель варшаўскай гімназіі — Хвалібогоўскі... — Ці не за добрае толькі прозьвішча выбралі з тысячаў іншых гэтага пана?!

### Зьмены на становішчах „крэсавых“ ваяводаў.

Прэзыдэнтам Рэспублікі назначаны нейкі п.Мех на становішча Валынскага ваяводы на мейсца Дэмбскага. Тым-жа дэкрэтам прэзыдэнта зволенены „слаўны“ ген. Янушайтіс з становішча наваградзкага ваяводы.

### Рачкевіч адмовіўся ад ваяводзтва ў Пазнані.

Газэты пішуць, быццам прэм. Бартэль запрапанаваў п. Рачкевічу становішча пазнанскага ваяводы, але той адмовіўся, заявіўшы, што вельмі пакахаў Віленскае.

### Звальненьне з вастрогу проці-пілсудскіх генаралаў.

Генарал Язьвіньскі звольнены з Антокальскага ваеннага вастрогу ў Вільні. Тое-ж мае ў хуткім часе быць зроблена і з другім „анты-пілсудскім“ генаралам—Мальчэўскім.

### Праф. Кемэрэр скончыў працу ў Польшчы.

Праца камісіі праф. Кемэрэра над вывучэньнем польскай фінансавай гаспадаркі скончана. Даклады камісіі з радамі польскаму ўраду будуць пададзены яму з вялікай урачыстасьцяй. 7 верасьня ўся місія Кемэрэра мае выехаць з Польшчы.

Пасьля Польшчы праф. Кемэрэр мае паехаць у Паўдзённую Амэрыку—парадкаваць фінансавую гаспадарку дзьвюх таксама „паўмоцарствовых дзяржаў“—Балівіі і Эквадора.

## Заграніцай.

### Гішпанія адсунулася ад працы ў Лізе.

Гішпанія, гневаючыся за адмову ёй сталага мейсца ў Радзе, а таксама за адмову „адшкадаваньня“ за страту сталага мейсца—шляхам аддачы ёй Танжэру,—здаецца, рашуча адсунулася ад усялякай працы ў Лізе Народаў. Прынамся ўсе яе дэлегаты выехалі з Жэнэвы, а навет сам дэ-Рывэра паслаў тэлеграму Чэмбэрлену і Брыяну аб тым, што Гішпанія—„устрымоўваецца ад учасьця ў працах Лігі“, матывуючы гэты крок—„неабходнасьцю падтрымаць аўтарытэт (павагу) Гішпанскай дзяржавы, якой Рада Лігі вызначае неадпавядаючае мейсца ў Лізе“. Але чамусьці ўсе ў Жэнэве ня вераць, каб Гішпанія запраўды выйшла з складу Лігі. Дык Чэмбэрлен з Брыянам зьвярнуліся нават... да Рымскага Папы, каб намовіў Гішпанію памірыцца.

### Ці памірыцца з адмовай.

Англійскія газэты б'юць трывогу. Палажэньне ў Танжэры блутаецца. У Танжэрскі порт прыбылі 3 гіш-

панскія і 2 італьянскія ваенныя караблі. Дык зараз-жа з эскадры ў Гібралтары высланы ў Танжэр ангельскі браненосец, які мае—ў выпадку патрэбы — „узяць на сябе ахову ангелійскіх грамадзян“.

Ці-ж запраўды ваенны саюз з Італіяй дадаў такой адвагі Гішпаніі, што яна зробіць спробу захапіць аружнай рукой тое, чаго ёй не даюць узяць мірным шляхам—канфэрэнцыі?!

### Турцыя мае ўвайсьці ў Лігу.

У Жэнэву прыехаў турэцкі дыплямат, які быццам мае намацаць грунт дзеля ўваходу Турцыі ў склад Лігі. Так прынамся пішуць ангелійскія газэты.

### Паразуменьне расейска-турэцка-пэрскае.

Новы пасьпех радавай дыпляматыі трывожна адзначае ангелійская прэса: гэта — заключэньне ваенна-гаспадарчага паразуменьня паміж СССР, Турцыяй і Пэрсіяй. Новы трактат мае перадусім мэтай—загарантаваньне міру і граніц усіх трох суседзяў.

### Амэрыка мае скасаваць ваенныя даўгі?

У Парыжу вялікую сэнсацыю зрабіла вестка з Вашынгтону, быццам там паднята пытаньне — аб пераглядзе справы ваенных даўгоў эўрапэйскіх дзяржаваў Амэрыцы. Некаторыя ўплывовыя нью-йорскія газэты пачалі рашучую кампанію за скасаваньне даўгоў, даводзючы, што спагон гэтых даўгоў з эканамічна зруйнаванай Эўропы аканчальна даб'е гэтага спажыўца амэрыканскіх тавараў. Дык Амэрыка з часам страціць ня толькі свае грошы, але і — рынкі... Павага гэтай весткі падмацоўваецца тым, што ў той самы дзень міністар фінансаў Амэрыкі, Мэльлён, які прыехаў у Эўропу, зрабіў візыты францускаму прэм'еру і міністру замежн. спраў, з якімі меў доўгія размовы. Кожнаму ясна, якое вялізарнае значэньне для гаспадарчага адраджэньня Эўропы мела-б скасаваньне амэрыканскіх даўгоў...

### Акт абвінавачэньня Пангалёсу

Былага грэцкага дыктатара Пангалёса акт абвінавачаньня вінаваціць у дзяржаўнай здрадзе, у захвацэ ўлады проці волі народу, ды ў розных надужыцьцях гэтай улады на карысьць кішэняў—сваёй і крэўнякоў. Уся маемасьць іх мае быць сканфіскавана.

### Вялікая перамога народных арміяў у Кітаі.

Ангелійская прэса пацьвярджае вестку аб рашучым паражэньні арміі Ву-Пэй-Фу ў паўдзённым Кітаі. Гэтая перамога Кантону ў значнай меры абніжае вартасьць перамогі „саюзьнікаў“ пад Пэкінам, як сьцьвярджае сама ангелійская прэса.

## „Сумная казачка аб мейсцы Польшчы у Радзе Лігі Народаў.

Праца спэцыяльных камісіяў і падкамісіяў у справе рэарганізацыі Рады Лігі Народаў скончана. Праект, апрацаваны камісіяй, зацьверджаны Радай Лігі. Астаецца толькі, каб ён быў прыняты Агульным Зборам Лігі і—каб паводле новага арганізацыйнага статуту Лігі адбыліся новыя выбары ў Раду.

Галоўнай зьменай у новым праекце зьяўляецца павялічэньне з 6 да 9 лічбы нясталых сяброў Рады Лігі, якія выбіраюцца кожны на 3 гады. Ня больш, як тры з гэтых адбыўшых свой трохлетні мандат выбарных сяброў Рады могуць атрымаць ад Агульнага Збору Лігі „права“ выставіць сваю кандыдатуру на наступнае трохлецьце і быць выбранымі нанова, а пасьля новага трохлецьця — можа ізноў на трэцяе і так далей.

Гэткім парадкам новы праект стварае нешта сярэдняе паміж сталымі і часова-выбіранымі сябрамі Рады—нейкіх „паўсталых“ сяброў Рады Лігі. Але праект падчырківае, што гэтым Агульны Збор Лігі мае карыстацца гэтым правам паўторнага выбару толькі ў выпадку надзвычайным, пры чым патрэбна ня звычайная, але асаблівая большасьць — дзьве трацiны прысутных дэлегатаў Агульнага Сабраньня Лігі.

Дадатковыя правілы— аб выбарах у сёлетнім годзе—кажуць, што цяпер маюць быць выбраны 3 сябры на 3 гады, тры сябры—на 2 гады і 3—на 1 год. З гэтых нова-выбраных сяброў Рады Агульны Збор можа зараз-жа выбраць і тых, якім згары будзе прызнана права перавыбару на новае трохлецьце. Але і гэтыя правілы падчырківаюць, што гэта права Агульнага Збору зусім не зьяўляецца яго **абавязкам**, падчырківае, што гэтыя правілы зусім і ні ў чым не павінны вязаць свабодную волю Агульнага Збору *)...

З гэтага агляду новага праекту ясна відаць, што ўзапраўднасьці ніякага **права** для нясталых сяброў праект не стварае. — Бо наагул усякаму праву аднаго павінны адпавядаць пэўны абавязак з боку другога. А тут „праву“, скажам, Польшчы быць перавыбранай на новае трохлецьце ў Раду адпавядае таксама... права Агульнага Збору—**выбраць** Польшчу **ці ня выбраць.** Ясна, што ад права на перавыбар да самага перавыбару—яшчэ вялікі крок, а новы праект націскае на Агульнае Сабраньне, каб не рабіла без надзвычайнай патрэбы гэтага кроку...

Як сьцьвярджаюць газэты, гэты праект рэарганізацыі Рады Лігі апрацаваны **ў поўным паразуменьні францускімі, і ангелійскімі і... нямецкімі экспэртамі.** Дык ня дзіва, што сэсіі Лігі Народаў, якая мусіла распачацца ў панядзелак 6 верасьня, цьвёрда забясьпечана толькі адно: **прыняцьце Нямеччыны ў склад Лігі адразу на сталае мейсца ў Радзе Лігі.** Дык ясна, што запраўднымі кіраўнікамі ўсіх спраў у Лізе будуць гэтыя тры найвялікшыя з вялікіх дзяржаваў Эўропы: Англія, Францыя і Нямеччына. Ясна і тое, што толькі тым сябрам Лігі гэныя кіраўнікі яе будуць даваць нясталае ці паўсталае мейсцы ў Радзе, якія „будуць сябе добра вясьці“—з іх пункту гледжаньня... Запраўды, — інакш на 5 сталых „вялікіх“ сяброў Рады (апрача трох названых вялікіх дзяржаў яшчэ — Італія і Японія) выпадала-бы большасьць нясталых „малых“ сяброў (дзевяць), і гэныя „малыя“, калі-б ня былі зьвязаны „вялікімі“, маглі-б проці волі апошніх камандаваць у Радзе Лігі, а праз яе—і ўсей Лігай... А з гэтага ясна, што гэтымі „паўсталымі“ мейсцамі ў Радзе „вялікія“ кіраўнікі Лігі будуць так гандляваць, як гэта для іх будзе выгадней — даючы перавыбар у Раду толькі такому яе сябру, які рабіў у першае трохлецьце тое, што яму загадывалі...

Як ведама, Польшча праз увесь час старалася за ўсялякую цану папасьці ў Раду Лігі на сталае мейсца — разам з Нямеччынай, каб мець магчымасьць разам з Францыяй змагацца тамака з нямецкімі ўплывамі. І Францыя горача падтрымлівала яе, але... толькі да таго мамэнту, пакуль не пачалося француска-нямецкае зьбліжэньне. Цяпер, калі Францыя ідзе што-дзень ўсё больш да поўнага паразуменьня, амаль не да поўнага **саюзу з Нямеччынай**, калі да гэтага „саюзу“ далучаецца і Англія, ды яны ўжо ўтрох разам кіруюць усімі справамі Лігі (—яшчэ да ўваходу ў яе склад Нямеччыны!), дык хоць-бы Польшчу і выбралі, як абяцуюць, на „паўсталае“ мейсца ў Раду Лігі, роля яе запраўды зьедзе толькі да пакорнага выконваньня супольных загадаў і пастановаў гэтай новай наймагутнейшай у Эўропе „тройкі“... Ад яе згоднай волі нічога не абароне Польшчы, незалежна ад таго, ці яна будзе мець свайго прадстаўніка ў Радзе, ці ня будзе... А ведама-ж, што Нямеччына ўваходзіць у склад Лігі іменна дзеля таго, каб адразу-ж узяць там, як кажуць, рашучы, **актыўны курс...** Сваей актыўнасьцю разброеная Нямеччына ўжо некалькі гадоў мірна пабівае азброеных яшчэ да зубоў сваіх вялікіх ворагаў — пераможцаў. Лёгка сабе прадставіць, як будзе пабіваць Нямеччына „невялікіх“ тады, калі ўвойдзе ў саюз з „вялікімі“...

Есьць гэткія сумныя казкі, у якіх крэпка жаданае і горача шуканае шчасьце прыходзе акурат тады, калі няма адпаведных варункаў і сілаў, каб ім у належнай меры карыстацца... Нешта падобнае якраз і здарылася ў „казачцы — аб паўсталым мейсцы для Польшчы ў Радзе Лігі Народаў“...

**Наглядчык.**

*) Нямецкі дэлегат у Камісіі асабліва настаіваў на гэтым пункце!..

## З жыцьця „Грамады“.

### НОВЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ.

У ніжэйпаданых мяйсцовасьцях з'арганізаваліся новыя Гурткі і выбраны Камітэты Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады:

222. 15./III. у в. **Жаўтні,** Вялейскае гм., Вялейскага павету.
223. 15./VIII. у в. **Пагарэльцах,** Белавежскае гм., Ваўкавыскага пав.
224. 15./VIII. у в. **Мачульна**, Роскай гм., Ваўкавыскага пав.

## Павятовы Зьезд Белар. Сял.-Раб. Грамады у Вялейцы.

Дзень 29 мінулага жніўня быў праўдзівым сьвятам для працоўных места Вялейкі і павету. Яны сабраліся ў гэты дзень на свой павят. зьезд.

Будынак пажарнае каманды, у якім адбываўся Зьезд, быў прыгожа ўквечаны маладымі бярозамі і кветкамі. Парадак трымае партыйная міліцыя з чырвонымі павязкамі на левым рукаве. У дзьвярох гэтая самая міліцыя моцна фільтруе цэлы натаўп людзей, якія жадаюць прайсьці на сабраньне. Згодна з афіцыяльным пазваленьнем, пускаюць у салю толькі сяброў партыі, каторыя маюць білеты, аб чым вывешана на дзьвярох абвяшчэньне. Усюды парадак.

А гадзіне 11-ай з мінутамі саля запаўняецца сотнямі дзьвюма чалавек. Відаць з паўтара дзесятка жанчым у хустачках. Гэта мясцовыя падзённыя работніцы-дзяўчаты.

Роўна ў 11 г. 30 мін. адсланяецца сцэна. На пасла Рак-Міхайлоўскага ляціць цэлая хмара кветак.

Ён адчыняе зьезд, адразу прапануючы выбраць прэзыдыум, у які выбіраюцца апроч Рак-Міхайлоўскага — старшыні зьезду: пасол Мятла, Валынец Флегонт, Каляда Уладзімер, Каляда Аляксандар і Сафрон Усьціновіч.

На парадку дня: 1) справаздача паслоў, 2) даклады аб працы на мясцох, 3) арганізацыйныя справы і выбары павятовага камітэту, 4) бягучыя справы.

З кароткіх **прывітаньняў ад мясцовых гурткоў** застаецца моцнае ўражаньне, што **жаданьне беларускае школы** зрабілася масавым, усенародным. Адзін з павадыроў нейкага вясковага гуртка проста так і кажа: „Старыкі нашыя паслалі нас сюды з наказам голасна заявіць аб іх агульным жаданьні роднае школы, каб дзеці нашыя маглі выхоўвацца сьвядомымі нацыянальна“.

**Пасол Рак-Міхайлоўскі** рысуе зbольшага беларускі вызвольны рух ад 1905 г., падходзячы да гісторыі паўстаньня да жыцьця Беларускае Сялянска-Работн. Грамады. Накідае каратка прычыны расколу Беларускага Соймавага Клюбу, спамінаючы абяцанкі ўраду ген. Сікорскага, падтрымавага ў свой час гэтым клюбам. Далей робіць зbольшага параўнаньні. На Усходзе 4.000 бел. пач. школаў, будучая Навуковая Акадэмія — Інстытут Бел Культуры і інш. Тут, у Зах. Беларусі, няма чаго і прыраўняць. Калі параўнаць палажэньне $2^1/_2$ мільёнаў тутэйшых беларусаў з нашаю меншасьцяй у Латвіі, дык мы прапарцыянальна мусілі-б мець 3.500 школ.

Сацыяльнае палажэньне белар. масаў несьцярпімае. Навет перад вайною варункі істнаваньня былі куды лягчэйшымі, была магчымасьць эміграцыі ў Амэрыку, магчымасьць служыць і не рабіць цеснаты на зямлі. Пасол успамінае выбары ў Сойм, перавагу тады польскіх ашуканчых партыяў, якія ўжо мелі арганізованыя сілы, ды мелі прадстаўнікоў у Установчым Сойме. Гаворыць аб палючасьці школьнага „плебісцыту“.

— „Кожны пісьменны беларус,—канчае Рак-Міхайлоўскі,—павінен вучыць нашае маладое пакаленьне“.—Кліч: „Няхай жыве беларуская школа!“—сустракаецца аднадушна гучнаю авацыяй.

**Пасол Мятла** гаворыць аб барацьбе за сацыяльныя правы і аб эканамічным палажэньні працоўных масаў у Польшчы, сьцьвярджаючы, што жыцьцё польскіх паноў, якія кіруюць дзяржаваю, йдзе не па кішані. Падаткі плацяцца працоўнымі масамі, а 740 мільёнаў злотых падатку ад маемасьці дасюль не заплачаны абшарнікамі і фабрыкантамі.

А $1^1/_2$ гадз. пачынаюцца кароткія **даклады аб працы гурткоў** на мясцох. Гурток у Вялейцы працуе ад 27. VI. Дакладчык Каляда заяўляе, што арганізацыя расьце й мацнее. Прамоўца заклікае да таго, каб партыйнымі й культурнымі беларускімі арганізацыямі была пакрыта ўся Зах. Беларусь. Далей ад гурткоў выступаюць: Бягун, Блажэвіч (Вішн. вол.), Гулевіч (Маладзечна), Хацяновіч (Крывічы), Жоўтка, Антановіч (Княгініна). Раён гэтага апошняга гуртка ахапляе каля 20 вёсак. Залажылі яго 7 чалавек, а цяпер праз яго ўжо прынята ў партыю больш за паўтары сотні сяброў. Улады блізу што ніякіх перашкодаў не рабілі. Проці арганізацыі агітаваў поп, палохаючы народ пеклам ды вастрогам. З заяваў ад гурткоў відаць, што абшарнікі дзе-ні-дзе трывожацца, страшачы людзей рэпрэсіямі, але баязьлівасьць зьнікае з кожным днём, і напльў новых сяброў у партыю робіцца стыхійным.

Трапляюцца й вясёлыя мамэнты. Вось малады чалавек пляжыць „Сялянскі Саюз“, ну і... Павлюкевіча, бачучы ў гэтых дзеячох выразную нашу рэакцыю. Павлюкевіча чамусьці лічыць прамоўца за пасла, але Старшыня Зьезду пасол Рак-Міхайлоўскі тлумачыць гэтае непаразуменьне.

Паседжаньне зацягваецца да 5 гадзіны, але большага, як на мін. 15, перарыву ніхто не дамагаецца. Пасьля перарыву аднагаласна прымаюцца гэткія рэзалюцыі:

Вялейскі Павятовы Зьезд Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады, сабраны 29-га жніўня 1926 г. ў м. Вялейцы ў лічбе 216 сталых сяброў Грамады, пастанавіў:

1) Справаздачу паслоў Рака-Міхайлоўскага і Мятлы аб працы Клюбу Грамады ў Сойме і на правінцыі зацьвярдзіць, лічучы, што гэтая работа, абапёртая на цесным саюзе сялян і работнікаў, правільная і вядзецца на карысьць нашага працоўнага народу — згодна з яго сацыяльнымі і нацыянальнымі інтарэсамі.

2) Прызнаючы, што цяперашні ўрад „маральнае направы“, зьяўляецца выразным урадам абшарнікаў і капіталістаў, што ён праводзіць, як і папярэднія буржуазныя ўрады Польшчы, палітыку дэнацыяналізацыі, — Зьезд лічыць, што толькі запраўдны Сялянска-Работніцкі Урад захоча і зможа папрaвіць долю працоўнага народу ды прыгнечаным нацыянальнасьцям даць поўную свабоду самавызначэньня.

3) Зьезд лічыць правільнай лінію Соймавага Клюбу Грамады і ўсяе Грамады ў яе барацьбе з ўсімі згодніцкімі партыямі, як польскімі, так і беларускімі.

Зьезд пастанаўляе, што Грамада будзе і далей стойкка вясьці барацьбу:

4) За ўсе штодзенныя патрэбы селяніна і работніа.

5) За тое, каб падаткі былі пераложаны з плячоў працоўных на плечы маючых клясаў; каб былі спагнаны 740 мільёнаў маёнткавага падатку, незаплачанага дагэтуль панамі абшарнікамі і фабрыкантамі; за тое, каб быў уведзены падатак ад гаспадаркі адзіны на ўвесь год, з разлажэньнем на раты, а с бязземельных і малазямельных каб былі зьняты ўсялякія падаткі.

6) За зямлю для сялян бяз выкупу і сплаты і за скасаваньне асадніцтва.

7) За родную школу на скарбовы кошт: кожнай нацыянальнасьці павінна быць школа ў роднай мове; беларусам — беларуская школа. За спыненьне тэрору адносна да прыватных беларускіх школ. Упрасьціць

225. 15./VIII. у в. **Грыцкі**, Сьвіслацкае гм., Ваўкавыскага пав.
226. 15./VIII. у в. **Міневічы**, Лунненскай гм., Гарадзенскага пав.
227. 8./VIII. у в. **Вірацеі**, Норыцкай гм., Пастаўскага павету.
228. 15./VIII. у в. **Рудае**, Луцкае гм., Пастаўскага павету.
229. 15./VIII. у в. **Вуняхава**, Жухавіцкай гм., Стаўпецкага пав.
230. 14./VIII. у в. **Бялевічах**, Норыцкае гм., Пастаўскага пав.
231. 2./VIII. у в. **Каўпакі**, Горніцкае гм., Горадзенскага пав.
232. 8./VIII. у в. **Галоўнічы**, Верцялішскае гм., Горадзенскага пав.
233. 12./VIII. у в. **Верцялішках**, Верцялішскае гм., Горадзенскага пав.
234. 14./VIII. у в. **Ярмолічы**, Індурскае гм., Горадзенскага пав.
235. 20./VIII. у в. **Гартань**, Тэлеханскае гм., Косаўскага пав.
236. 15./VIII. у в. **Гліннае**, Сьвятавольскае гм., Косаўскага пав.
237. 16./VIII. у в. **Сашыцы**, Сялецкае гм., Пружанскага пав.
238. 9./VIII. у в. **Зарубічы**, Індурскае гм., Горадзенскага пав.
239. 15./VIII. у в. **Цімошкавічы**, Райчанскае гм., Наваградзкага пав.
240. 15./VIII. у в. **Юравічы**, Волянскае гм., Баранавіцкага пав.
241. 8./VIII. у в. **Любішчыцы**, Боркагічыцкае гм., Косаўскага пав.
242. 7./VIII. у в. **Быкавічы**, Ярэміцкае гм., Стаўпецкага пав.
243. 8./VIII. у в. **Ганчарах**, Ганчарскае гм., Лідзкага павету.
244. 8./VIII. у в. **Амяльянавічах**, Пачапаўскае гм., Наваградзкага пав.
245. 8./VIII. у в. **Дакудава**, Дакудаўскае гм. Лідзкага павету.
246. 15./VIII. у в. **Гашчэва**, Косаўскае гм., Косаўскага пав.
247. 15./VIII. у в. **Сухмяны**, Горнінскае гм., Горадзенскага пав.
248. 10./VIII. у в. **Шчэрбовічы**, Лунненскае гм., Горадзенскага пав.
249. 7./VIII. у в. **Вялікая-Слабада**, Ярэміцкае гм., Стаўпецкага пав.
250. 8./VIII. у в. **Бунневічы**, Пачапаўскае гм., Наваградзкага пав.
251. 15./VIII. у в. **Машэвічы**, Раецкае гм., Наваградзкага пав.
252. 1./VIII. у в. **Лізароўшчына**, Цырынскае гм., Наваградзкага пав.
253. 2./VIII. у в. **Кузевічы**, Моўчадзкае гм., Баранавіцкага пав.
254. 15./VIII. у в. **Галынцы**, Валнянскае гм., Баранавіцкага пав.
255. 12./VIII. у в. **Агароднікі**, Гарадышчанскае гм. Баранавіцкага пав.
256. 15 /VIII. у в. **Рыдзялёх**, Вярцелішскае гм., Горадзенскага пав.
257. 2./VIII. у в. **Лазы**, Ваўпянскае гм., Горадзенскага пав.
258. 19./VIII. у в. **Бязводнікі**, Сьвіслацкае гм., Ваўкавыскага пав.
259. 15./VIII. пры тартаку ў **Сточку**, Белавежскае гм., Бельскага пав.
260. 15./VIII. у в. **Кульгаі**, Празароцкае гм., Дзісьненскага пав.

фармальнасьць пры дамаганьні роднае школы; датарнаваць школьныя праграмы і даўжыню школьнага году да жыцьця вёскі. Каб былі зьняты ўсе несправядлівыя штрафы на бедны народ, а перадусім школьныя штрафы.

8) За зьмяньшэньне коштаў на ўтрыманьне войска, за скарачэньне часу службы ў войску; каб зьменшыць лічбу ўрадоўцаў, паліцыі, а ўсіх тайнікаў і ўсю дэфэнзыву скасаваць.

9) За тое, каб спыніць тэрор і зьдзек паліцыі і адміністрацыі ды сурова пакараць вінных тайнікаў, паліцыянтаў і несправядлівых судзьдзяў.

10) За скасаваньне кары сьмерці, за скасаваньне надзвычайных (даразных) судоў, за вызваленьне з турмы ўсіх палітычных вязьняў.

11) За тое, каб самаўрады гмінныя і павятовыя не назначаліся старастамі, як дагэтуль, а выбіраліся народам.

12) За тое, каб ня нішчылі і не распрадавалі загранічным капіталістам найвялікшага народнага багацьця Заходняй Беларусі — нашых лясоў, а народу аблягчылі карыстацца імі для сваіх патрэбаў; каб была дадзена народу помач на адбудову.

У склад Вялейскага Павятовага Камітэту Беларускае Сялянска-Работніц. Грамады Зьездам выбраны ніжэйпаданыя асобы: 1) Антановіч Аляксандар, 2) Качаргін Янка, 3) Каляда Аляксандар. Па большасьці атрыманых галасоў лічыцца першым кандыдатам на выпадак патрэбы кааптаваньня ў Камітэт сябра Грамады—Пагуда Сьцяпан.

Пункты аб зямельным пытаньні, школах і амністыі для палітычных выклікаюць буру воплескаў і клічаў: „Няхай жыве еднасьць працоўных“, „Няхай жыве беларуская работніца“, „Няхай жыве сялянска-работніцкі ўрад“ і г. д.

Увечары бойка праходзіць спэктакль, зладжаны стараньнямі сябры павятовага камітэту Аляксандра Каляды, памастацку вёўшага ролю Янкі ў „Птушцы шчасьця“. Людвісяю ў „Каліcь“ была простая работніца-дзяўчына.

Вечар закончыўся скокамі пад гукі паважнага, як на малы гарадок, беларускага аркестру.

## Сход сяброў Віленскага Гуртка Грамады.

Камітэт Віленскага Гуртка Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады гэтым паведамляе, што 12-га г. м. ў нядзелю а 10 гадз. раніцаю на Віленскай вул. № 12 адбудзецца агульны сход сяброў Грамады.

**Камітэт Гуртка.**

## Ад Дзісьненскага Павятовага Камітэту.

Дзісьненскі Павятовы Каміт. Бел. Сялян.-Работ. Грамады гэтым падае да агульнае вядомасьці, што ад 1-га верасьня г. г. працуе ў м. Глыбокім на Ломжынскай вул.

Усе заінтэрэсаваныя асобы з гмін суседніх з Глыбокім могуць зьвярнуцца ў Камітэт—за арганізацынымі парадамі і партыйнымі друкамі.

Гміны кіруючыяся і маючыя сувязь з ст. Зябкі могуць у ўсіх партыйных справах зьвяртацца да старшыні павят. камітэту М. Нікіфароўскага ў Празароках—гдзе могуць атрымліваць праграмы, дэкларацыі, квітар'юшы і г. д. Адначасна Камітэт просіць усе Гурткі да 20-е даты кожнага месяцу прысылаць сьпіс сяброў,—пры гэтым у сьпісах наступных месяцаў (а пасьля першага сьпісу) падаваць толькі сяброў новых.

Камітэт месьціцца ў доме № 54 пры Ломжынскай вул., і працуе што-дня, за выняткам аўторкаў і субот, ад 9 да 15 гадз.

*Дзісьненскі Павятовы Камітэт Сял.-Раб. Грамады.*

## Ахвяры на пагарэлых сяброў.

Празароцкім Гмінным Камітэтам Бел. Сял.-Раб. Грамады атрымана да 1-га верасьня г. г. ахвяр на пагарэлых сяброў у в. Папялах ад: Цэнтральнага Сэкрэтарыяту—30 зл.; ад Княгінінскага Гуртка — 4 зл.; ад Лаўрыновічаўскага Гуртка — 1 зл. 50 гр.; ад Трашчыцкага Гуртка — 5 зл.; ад Косьценевічаўскага Гуртка—15 зл. 82 гр.; ад курсантаў у Радашкавічах — 8 зл. 5 гр.; ад Вялейскага Гуртка—5 зл.; ад Зуброўскага Гуртка—2 зл. 50 гр.; ад Алекшыцкага Гуртка—15 зл. 20 гр.; Шалпяльскага Гуртка — 5 зл. і ад сяброў Празароцкае гм.,—21 зл. 25 гр.

Ад імені пагарэльцаў Празароцкі Гмінны Камітэт складае ўсім ахвярадаўцам шчырую падзяку.

*Празароцкі Гмінны Камітэт.*

## Абвяшчэньне.

Партыйны білет на імя Шута Язэпа з в. Шчарбавічы Валянскае гм., Баранавіцкага пав., за № 2103 **уневажняецца**.

## Адказы Цэнтр. Сэкрэт. Грамады на лісты.

22. Залескі Гурток. Дужа прыемна, што Вы нарэшце пераканаліся ў здрадзе „Вызваленцаў“. Грамада будзе старацца памагчы Вам у кожнай справе.
23. Шалопка Г. і Окунінскі Гурток. Просьбу перадамо паслам. Уразе згоды паведамім лістамі.
24. Засьценка — Заболцьеўскі Гурток. Форму пратаколу знойдзеце ў інструкцыі. Друкі высылаем.
25. Болтыцкі Гурток. Білет зьвярніце нам для абмену на новы.
26. Ігнатовіч. Усе патрэбныя інструкцыі ў школьнай справе дасьць Вам Школьная Рада.
27. Тарасэвічаўскі Гурток. Мужы даверыя маюць права склікаць прыватныя сходы ўва ўсіх гмінах і паветах Заходняе Беларусі.
28. Задвейскі Гурток. На „страхі“ Павлюкевіча і рэшту дурных выдумак не зварачывайце ўвагі. Пададзеныя тэрміны прыймаем да ведама. Арганізавацца трэба самім.
29. Рыдга Сьцяпан. Магчыма і інфляцыя, толькі Вы яе неправідлова разумееце. Інфляцыя — надмернае друкаваньне грошаў,—што выклікае спадак іх вартасьці і коштам работнікаў прыносіць карысьць прамыслоўцам.
30. Крапіўніцкі, Юшкавіцкі, Клімовіцкі, Гарэвіцкі, Задзьвейскі, Лебядзеўскі, Татараўскі і Пірадольскі Гурткі—білеты і друкі высылаем.
31. Мілевіцкі Гурток. Друкі і білеты высылаем. „Маланка“ будзець высылацца.
32. Гурткі ў Кісялёх, Малажанах, Грыбаўцах. Друкі і білеты высылаем, пададзеныя адрэсы выкарыстаем.
33. Урбановіч Вінцук. Просьбу спаўняем.
34. Шайнецкі Гурток. 5 злотых на пагарэльцаў атрымалі і пераслалі С. Нікіфароўскаму ў Празарокі. Шчырая падзяка.
35. Храноўскі. Аб гвалтах будуць паведамлены належныя ўстановы.
36. Гурток у Горных-Руткавічах. 20 злотых сяброўскіх складак атрымалі. Білеты высылаем.
37. Кравец К. Гурток Ваш залегалізованы у Старасты. Аб сходах паведамляйце за 3 дні. Білет прытрымайце, паслы павядомлены аб арышце.
38. Кухарчук. Дамаганьне цывільных шлюбаў зусім зразумелае;—нічога сьмешнага ў гэтым ня бачым.
39. Кахоўская Вольга. Нашая Грамада не сароміцца „клясавай вузасьці“. Грамада лічыць, што інтарэсы працоўнае клясы зыходзяцца з інтарэсамі чалавецтва. „Шырокія“ надклясавыя, пазаклясавыя і паміжклясавыя точкі паглядаў,—для нас толькі формы ідэалёгіі клясаў, маючых прычыны скрываць сваю ўласную прыроду. З клясавым крытэрыем таму наша Грамада падыходзіць да ўсіх так-званых вялікіх і сталых цэннасьцяў. На ліст Вам адкажам праз нейкі час.

# Пэпээсауская крывадушнасьць.

У нумары 16 пэпээсаўскай газэты ў расейскай мове „Красное Знамя“, выдаванай для беларускага сялянства Палесься ў Лунінцы, чытаем гэткі зварот да чытачоў:

„Товарищи! Кто не сидел в тюрьме, тот не понимает, насколько дорога память от товарищей, когда за железной решеткой получается какая либо помощь.

„Если мы вступили в борьбу, должны быть готовы ко всему.

„Дающего рука да не оскудеет, так сказал Христос!

„Все члены Сельских Комитетов, во имя братской солидарности должны оподатковать себя единовременным или месячным податком.

„Деньги эти будут расходоваться на помощь нашим товарищам в тюрьме, а также если понадобится адвокатская помощь для наших же товарищей“.

Дык вось як, паны пэпээсы! Вы **адмовіліся вясьці змаганьне за звальненьне палітычных вязьняў з вастрогаў**, вы абязсьцілі барацьбу **ўсяму магутнаму народнаму руху за амністыю**, называючы яго „**антыпаньствовым**“ (тое-ж кажа дэфэнзыва!), а цяпер, дзеля асалоды барацьбітам за волю працоўных—мо' вашым-жа тарышам, **замест волі суліце па пяць грошы на нос—на цыгаркі!**

Сяляне! Бачыце, чым хочуць выкруціцца перад вамі пэпээсы,—бачыце, як яны будуць „апекавацца“ вамі, калі-б вы, запісаўшыся ў іх партыю, папалі за краты!

„Будзьце гатовы да ўсяго!“ — пішуць пэпээсаўцы ў сваім закліку. Так, а за гэту вашу гатоўнасьць Польская Партыя Сацыялістаў пальцам ня кране дзеля вашага звальненьня, а ласкава кіне вам—міласьціну!...

# ХРОНІКА.

**Дэлегацыя да прэм'ера Бартля.** У Варшаву надовячы выехала дэлегацыя, зложаная з прадстаўнікоў Т-ва Беларускае Школы, дзьвюх цэнтральных жыдоўскіх школьных арганізацыяў і літоўскага асьветнага таварыства „Рытас“, якой прэм'ер вызначыў прыём на 7-га верасьня.

Дэлегацыя мае абгаварыць школьную справу трох прадстаўленых нацыянальнасьцяў пад уладай Польшчы. Яна павязла абшырныя мэморыялы з дамаганьнямі ўладжаньня школьнага пытаньня для „меншасьцяў“.

Трэба спадзявацца, што ўрад не пашкадуе... салодкіх слоў!

**Пачатак школьнага году ў Віленскай акрузе.** Віленскі куратар абвяшчае, што перанос пачатку школьнага году з 1-га на 15-га верасьня зьменены: вясковыя народныя школы павінны распачаць навуку 6-га верасьня.

**Пэпэсаў у Вільні зноў гоняць!** У нядзелю, 5-га верасьня у салі Кіно Гэліос меў адбыцца мітынг пэпээсаўцаў, дзе меліся прамаўляць пэпээсаўская сэнатарка Крушынская і пэпээсаўскі пасол Плаўскі. Першай і апошняй выступіла сэнатарка. Пакуль, лашчачыся, „крытыкавала“ яна сучасны ўрад Бартля-Пілсудскага і адміністрацыю, то яшчэ работнікі маўчалі; — але як пачала лаяць камуністаў, абзываючы іх жабамі, ды расхвальваць пэпээсаў і ўрад за падвыжку пэнсіяў афіцэрам і ваенным урадоўцам, дык прысутныя работнікі паднялі цэлую буру пратэсту. Сыпаліся з боку рабочых закіды: „Пэпээсы стралялі ў рабочых 1-га мая“! „Далоў здраднікаў, прадажнікаў працоўнай клясы“ і г. д. Адначасна пачалі трэбаваць, каб далі голас паслу Воевудзкаму (з Незал. Партыі Хлопскай).

Як толькі пачынала далей гаварыць сэнатарка, то работнікі сьвістамі і выкрыкамі: „здраднікі“, „прадажнікі“, „далоў пэпээсаў“—не давалі гаварыць. Тады старшыня заявіў, што, калі ў працягу пяцёх мінут, прысутныя не супакояцца, ён зачыніць мітынг. Тут-та яшчэ галасьнейшы падняўся сьвіст і крыкі і трэбаваньні, каб гаварыў Воевудзкі. Пэпээсы, бачучы, што нічога ня зробяць, зачынілі мітынг.

На мітынг прышлі чалавек 200 — 300, — толькі мо' пятая частка таго, колькі сёлета было на мітынгу Бел. Сял.-Раб. Грамады ў гэтай-жа салі!..

На вуліцы каля „Гэліосу“ сабралася шмат народу. Паліцыя пачала разганяць. Тоўпы працоўных сабраліся каля пасла Баліна (з Незал. Пар. Хлопскай) і пайшлі па Віленскай вул. Паліцыя кінулася разганяць. На аднаго работніка напала паліцыя каля касьцёлу сьв. Кацярыны; работнік так быў абураны, што з голымі рукамі адбіў наскок на яго. Паліцыянты адступілі, але на помач падляцелі чалавекі чатыры шпікоў, і работніка забралі.

**Да высьненьня абыватэльства.** Міністэрства ўнутраных спраў разаслала да ваяводаў Заходняе Беларусі ў Беластоку, Наваградку, Бярэсьці і Вільні цыркуляр у справе рэгістрацыі мястовага насяленьня і ўтварэньня грамадзкіх камісіяў дзеля ўстанаўленьня абыватэльства. У другім цыркуляры гаворыцца, што абыватэльства мусіць быць бясспрэчна прызнана асобам, якія ў часе сусьветнае вайны былі на „бежанстве“ ў Расеі і вярнуліся ў Польшчу легальным шляхам, а таксама ўдовы, якія заўдавелі да абвяшчэньня закону аб абыватэльстве, і — ведама-ж! — вайсковыя асаднікі.

**Праверка мераў.** Па загаду ўраду мусіць быць зроблена праверка ўсіх ужываных у гандлю (ў крамах, сельскіх гаспадарках, фабрыках) мераў і новае штэмпляваньне іх.

